www.nv-online.info

№ 53 (3998)

10 ліпеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Самая глыбокая

Спецыялісты вытворчага аб'яднання «Беларуснафта» завяршылі мантаж самай глыбокай свідравіны на тэрыторыі Беларусі.

Фактычная яе глыбіня склала 6 тысяч 755 метраў. Для правядзення гэтых работ закупілі спецыяльнае абсталяванне, якое раней у краіне не выкарыстоўвалася. На бурэнне яе сышоў 901 дзень. Цяпер геолагі вядуць апрацоўку дадзеных, атрыманых цягам свідравання, якія абяцаюць апублікаваць у гэтым месяцы.

ЮБІЛЕЙНЫ ЛІСТ




# 20!

"Народнай Волі" – **20!**

Калі ўзгадаць, якімі неймаверна цяжкімі выпрабаваннямі былі напоўнены гэтыя два выключна драматычныя дзесяцігоддзі і што ёй, нашай дэмакратычнай ластаўцы, давялося перажыць, вытрымаць, то іх можна залічыць за **100!**

У першым нумары "Народнай Волі" я пісаў: яе з'яўленне прадыктавана не столькі маім журналісцкім імпэтам, колькі воляй народа. І гэта, скажу шчыра, так і было. Калі з маіх рук груба і бесцырымонна, з парушэннем усіх існуючых законаў і нормаў маралі вырвалі "Народную газету", створаную як орган Вярхоўнага Савета, але менавіта з маёй дэпутацкай ініцыятывы, хатні тэлефон літаральна расколваўся ад беспераліпынных званкоў. Людзі з самых розных гарадоў, самых аддаленых вёсак, блізкага і далёкага замежжа, выказваючы шчырую падтрымку ў складаны для мяне час, прасілі знайсці сілы і не скарыцца перад тымі, хто свабоднага, праўдзівага слова баіцца больш, чым гарматных стрэлаў. Прасілі не складваць рук, не станавіцца на калені перад душыцелямі волі народа, а тэрмінова ўзяцца за выданне новай дэмакратычнай газеты.

Людзей свядомых абуралі, крыўдзілі інквізітарскія дзеянні новай улады. Уявіце такую карціну. 17 сакавіка 1995 года, літаральна адразу пасля з'яўлення ганебнага ўказа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі аб адхіленні мяне ад пасады галоўнага рэдактара парламенцкай газеты, у рэдакцыйны корпус Дома друку заявіліся дужыя хлопцы ў спецформе з не менш дужай аўчаркай і, можна сказаць, на руках вынеслі мяне з рабочага кабінета. Гэта была дзікунская расправа не толькі нада мною, маёй прафесійнай, дэпутацкай і чалавечай годнасцю. Такім пачварным чынам тыя, хто толькі што прыйшоў да ўлады, імкнуліся першымі сваімі нецывілізаванымі крокамі растаптаць праўду, задушыць народную волю. **І я не мог не ўстаць на бок беларускага народа.**

Ужо 11 ліпеня, у прыгожы летні дзень, на свет з'явіўся першы нумар "Народнай Волі". І на яе загалоўнай паласе была надрукавана вялікая падборка пад кідкай "шапкай": "Мінуў адзін год, як Беларусь выбрала прэзідэнта. Што за гэты час адбылося?". Вядома ж, прынцыповая, аб'ектыўная ацэнка дзейнасці ўлады выклікала шалёныя рэпрэсіі ў адносінах да новай газеты, якая яшчэ не паспела ўстаць на ногі. Як штодзённай незалежнай газеце ёй удалося выдавацца менш за два тыдні – з дванаццатага нумара па сямнаццаты... Вечарам 10 кастрычніка, літаральна за некалькі хвілін да адпраўкі палос у друк, у рэдакцыю патэлефанавалі з выдавецтва, падпарадкаванага Кіраўніцтву спраў прэзідэнта, і ашаламілі звесткай: чарговы нумар друкавацца не будзе, заключаны дагавор скасоўваецца. Няцяжка здагадацца, чаму на такі разбой не адрэагавалі ні прэзідэнт А.Лукашэнка, якому я накіраваў тэрміновую тэлеграму, ні Міністэрства юстыцыі, ні Генеральная пракуратура. У краіне фактычна адбыўся антыканстытуцыйны замах на свабоду слова!

Пазбавіўшы "Народную Волю" друкарні, знішчальнікі першых парасткаў дэмакратыі, ворагі беларушчыны разлічвалі, што такім чынам удасца задушыць "Народную Волю" ў зародку. Не ўдалося! Ужо праз некалькі дзён яе выданне аднавілася. Восем чарговых нумароў былі адтыражаваны ў невялічкай друкарні "Чырвоная зорка". Але і да яе дацягнулася лапа ўладных цэрбераў, якімі кіраваў і якіх нацкоўваў на газету сумна вядомы палкоўнік Замяталін. І тады "Народнай Волі" не засталося нічога іншага, як шукаць паратунак за мяжой, у эміграцыі. З 25-га нумара яна стала множыцца ў Вільнюсе, у друкарні выдавецтва "Летувас рытас". Але колькі разоў на мяжы перад "Народнай Воляй" апускаўся шлагбаум!

У чарговы раз я вымушаны быў звярнуцца да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі. Звярнуцца са словамі: "Не бойцеся, Аляксандр Рыгоравіч, адкрытай, шчырай і, бясспрэчна, куслівай прэсы. Бойцеся лісліўцаў і падхалімаў... Газеты, якія толькі падгаўкваюць, губяць людзей і краіну". На жаль, мае словы засталіся непачутымі. Час першай эміграцыі доўжыўся па ліпень 1996 года. З боем, але ўсё ж дабіліся дазволу на друк у Мінску. На гэты раз знайшлі паразуменне з прыватным выдавецкім прадпрыемствам "Мэджык". Ды нядоўга музыка іграла! Кіраўнік друкарні апынуўся ў бязлітасных цісках улады. У лістападзе таго ж 1996 года "Народная Воля" зноў апынулася ў эміграцыі, вярнуўшыся ў тую ж вільнюскую друкарню "Летувас рытас". Зноў бяссонныя ночы на мяжы, зноў ледзь не кожны нумар газеты давялося вырываць з расстаўленай уладай пасткі.

Магільшчыкі свабоднага слова пайшлі далей – скасавалі дамовы рэдакцыі з "Белпоштай", "Белсаюздрукам", а таксама з тымі транспартнымі структурамі, якія дастаўлялі газету ва ўсе рэгіёны. Адным словам, поўнасцю перакрылі кісларод. Што заставалася – пакутніцкая смерць? Народавольцы з гэтым не змірыліся. Тыражы газеты, якія дастаўляліся з Вільнюса, саматужна распаўсюджваліся па ўсёй краіне. На дапамогу прыйшлі сотні валанцёраў.

Так, без вялікай падтрымкі многіх людзей мы, вядома, маглі б і не вытрываць. Дзякуй вам, нашы дарагія прыхільнікі! Мы помнім той час, калі падпісчыкі газеты закідвалі суды іскамі, патрабуючы ад улад спынення дзікунскіх рэпрэсій у адносінах да "Народнай Волі".

Пахвілінна магу аднавіць у памяці незвычайны працэс, ініцыятарам якога быў падпісчык газеты Эдуард Тобін са Смалявічаў. У суд ён заявіўся разам з жонкай. Суддзя звяртаецца да яго з пытаннем: "Якімі фактамі вы можаце пацвердзіць тое, што адмовай працягнуць падпіску на "Народную Волю" "Белпошта" нанесла ўрон вашаму здароўю?" У адказ гучыць: "Калі мне перасталі дастаўляць маю любімую "Народную Волю" – у мяне перавярнулася ўсё жыццё... На нервовай глебе я, паверце, згубіў мужчынскую сілу. Пацвердзі, жонка, калі ласка..." Пасля гэтых слоў я не ведаў, што рабіць – смяяцца, плакаць, выбегчы на вуліцу і крычаць "Каравул!"... Бачыў разгубленасць суддзі, якая ў рэшце рэшт абавязала "Белпошту" выплаціць няўстойку спадару Тобіну. Але справа была не ў грашах. Вось так людзі змагаліся за **сваю** газету! І я тады даў зарок: пакуль буду жыць, "Народная Воля" будзе выдавацца!!!

Шмат вады сплыло ў беларускіх і літоўскіх рэках, пакуль, дзякуючы нашым і вашым, шаноўныя прыхільнікі, намаганням, салідарнасці міжнароднай супольнасці, "Народная Воля" атрымала чарговы дазвол на друкаванне ў Мінску. Але па-ранейшаму для яе быў закрыты доступ да цэхаў спецыялізаванага газетнага выдавецтва "Беларускі Дом друку". А менавіта пры ім працуе экспедыцыйная служба, якая развозіць газеты і часопісы па ўсёй краіне. За кожны пад'ём шлагбаума – плаці шалёныя грошы. Судзіліся з тагачасным кіраўніцтвам выдавецтва, але ж яно, выдавецтва, – прэзідэнцкае, а таму вердыкт быў не на нашу карысць.

Мы, народавольцы, не хацелі паміраць, а ўлады не хацелі здавацца. Калі не сваімі, дык рукамі розных рыбаковых, атрошчанкаў, гайдукевічаў і ім падобных яны гвалцілі газету на кожным скрыжаванні. Судовыя штрафы зашкальвалі! Напрыклад, Вярхоўны суд не адмяніў рашэнне абласнога, які пастанавіў выплаціць дачцэ забітага 5 мільёнаў рублёў замест 15 мільёнаў, заяўленых ёю ў іску. А з "Народнай Волі" і яе аўтараў спаганяюцца 52 мільёны (!) за тое, што газета быццам закранула гонар і дзелавую рэпутацыю тагачаснага старшыні Белдзяржтэлерадыёкампаніі Я.Рыбакова. Гэта крыху пазней той жа Вярхоўны суд вызначыць "гонар і дзелавую рэпутацыю" нахабнага злодзея і махляра Я.Рыбакова адзінаццаццю гадамі турмы. А тады за прынцыповае выказванне на старонках "Народнай Волі" былой вядучай тэлебачання Элеаноры Язерскай наконт таго, што нездаровая атмасфера, створаная кіраўніцтвам кампаніі, прыводзіць людзей да суіцыду (а такое было), нам давялося заплаціць, вобразна кажучы, сваёю крывёю. Як і за абнародаванне таго, што Ліберальна-дэмакратычная партыя на чале з тым жа С.Гайдукевічам супрацоўнічае з крывавым іракскім дыктатарам Садамам Хусейнам. Я ледзь не ўпаў, калі пачуў вырак суддзі: з рэдакцыі спаганяецца штраф у памеры 100 мільёнаў рублёў (прыкладна 50 тысяч долараў). За што? Ніводнай прэтэнзіі да тэксту матэрыялу. Усё правільна, выверана кожны факт, кожнае слова. Вось толькі, быццам, у ксеракопіі тэлеграмы з Багдада заменена прозвішча аднаго з намеснікаў С.Гайдукевіча на яго асабістае. Хто з падлюг, набліжаных да кіраўніка партыі, гэта зрабіў, рэдакцыі на той час было невядома. Суд, які на працягу некалькіх дзён адбываўся пад пільным вокам спецслужбаў, не стаў унікаць у нюансы. 100 мільёнаў штрафу "Народнай Волі" – і выжывайце як хочаце.

Сёння я добра ведаю матывы таго страшэннага пакарання. Газета, якая не стала на калені перад уладамі, павінна была знікнуць з інфармацыйнага поля. А мы не зніклі! Больш за тое, у адным з чарговых нумароў рубам паставілі пытанні:

1.Хто ў Беларусі, акрамя Ліберальна-дэмакратычнай партыі, меў квоты ад Садама Хусейна на атрыманне нафты па льготных коштах?

2.Якія кампаніі прыцягваліся ў якасці апаратараў для перапампоўвання іракскай нафты на міжнародныя рынкі?

3.Які прыбытак (лічы – "навар") мелі ўдзельнікі здзелак і як ён дзяліўся паміж імі?

4.Ці паступалі якія-небудзь сродкі ад аперацый з "хусейнаўскай" нафтай у беларускі бюджэт?

За такія вострыя пытанні можна было і кулю ў лоб атрымаць. Дзякуй Богу, засталіся жывыя, хоць пагроз за 20 гадоў было незлічонае мноства.

Вайна, якую ўлады аб'явілі "Народнай Волі" з першых нумароў яе існавання, не сціхала ні на адзін дзень. Яе працяг – амаль пяць гадоў чарговага выгнання з Беларусі. Столькі часу, як вы ведаеце, газета друкавалася ў Смаленску.

А помніце, шаноўныя чытачы, што было пасля вяртання з апошняй эміграцыі? Іск у суд небезвядомага міністра інфармацыі А.Праляскоўскага аб закрыцці "Народнай Волі". Некалькі месяцаў запар я амаль кожны дзень хадзіў на спатканне з Фемідай. Пакуль літаральна за хвіліну да вынясення вердыкту не пачуў заяву ад прадстаўніка Мініфарма: "Іск адклікаецца". Што гэта было – бесчалавечны шантаж? Выпрабаванне нерваў? Падрыў здароўя? Схіленне да кампрамісу?

...Так, за слова **ПРАЎДЫ** мы разлічваліся і разлічваемся коштам часткі свайго жыцця. Нішто не праходзіць бясследна, без маральных, матэрыяльных і фізічных згуб. Але нас, народавольцаў, ніхто не паставіць на калені! Таму што мы – за **ПРАЎДУ!** Я не аднойчы казаў і хачу паўтарыць гэта сёння, калі "Народная Воля" адзначае сваё 20-годдзе:

**Мы служым не ўладзе.**
**Мы служым не партыям.**
**Мы служым не алігархам.**
**Мы служым не апазіцыі.**
**Мы служым свайму сумленню.**
**Мы служым Свабодзе Слова.**
**Мы служым Дэмакратыі,**
**якая на першае месца ставіць**
**сілу закона, а не закон сілы.**
**Мы служым Чалавеку, які мае**
**не толькі абавязкі, але і правы.**
**Мы служым Вам, паважаныя**
**чытачы!**
**Мы служым Беларусі!**

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік, выдавец**
**і галоўны рэдактар газеты**
**"Народная Воля".**




# Мы – «Народная Воля»

ФІНАНСЫ

## Новы рэкорд...

Пяты месяц беларусы застаюцца чыстымі прадаўцамі наяўнай валюты, падтрымліваючы стабільна высокімі аб'ёмы здачы.

Паводле дадзеных Нацбанка, у чэрвені беларусы прадалі наяўнай валюты на 106,9 млн долараў больш, чым купілі.

У параўнанні з маем аб'ём чыстага продажу скараціўся амаль удвая. У разгар сезона адпачынкаў беларусы прыкметна павялічылі куплю валюты, але і аб'ёмы продажу выраслі. Паводле ацэнак экспертаў, аб'ёмы продажу застаюцца высокімі з-за зніжэння рублёвых даходаў і неабходнасці трат валютных зберажэнняў для бягучага спажывання.

Паводле дадзеных Нацбанка, у чэрвені грамадзяне павялічылі куплю наяўнай валюты на 29,3% у параўнанні з маем да 508,3 млн долараў. Гэта максімальны аб'ём у гэтым годзе. Продаж валюты вырас на 2,4% да 615,2 млн долараў.

ІНІЦЫЯТЫВА

## Асцярожна: «русский мир»

*"Малады фронт" (зарэгістраваны ў Чэхіі) склаў спіс "Чорнай сотні" ў Беларусі.*

"Чорнай сотняй" у мінулым стагоддзі называлі натоўпы манархістаў, якія пад лозунгам абароны імперыі праз пагромы і гвалт распраўляліся з так званымі іншародцамі ды іншаверцамі. Маладафронтаўцы прапаноўваюць усім неабыякавым людзям звяртацца ў пракуратуру і іншыя дзяржструктуры Беларусі з патрабаваннем спыніць дзейнасць той ці іншай арганізацыі са спісу "беларускай" "Чорнай сотні". У прыватнасці, сябры арганізацыі пішуць: *"Мы заклікаем папярэджваць бацькоў, чыіх дзяцей вярбуюць у "казачыя летнікі" і "клубы расійскай самаабароны". Мы бачым шляхам змагання самаарганізацыю беларускага народа дзеля абароны незалежнасці".*

**Любоў ЛУНЁВА.**

СИТУАЦИЯ



## Попросила политубежища – оказалась в СИЗО

*В брестском следственном изоляторе уже почти месяц находится таджикская оппозиционерка Шабнам Худойдодова.*

28-летняя Шабнам Худойдодова является членом оппозиционной «Группы 24». Последние годы она жила в России.

В октябре 2014 года таджикские власти объявили «Группу 24» экстремистской организацией. Таджикские правозащитники считают это политически мотивированным преследованием оппонентов режима за их взгляды.

Более месяца назад 28-летняя активистка таджикской оппозиции узнала, что в России готовится ее похищение. Как утверждают таджикские правозащитники, эти опасения оправданны, поскольку за последний год сторонников «Группы 24» неоднократно похищали.

12 июня 2015 года Шабнам Худойдодова направилась в Беларусь, чтобы попросить политического убежища. 15 июня она была арестована при пересечении белорусской границы. Таджикские власти объявили ее в розыск по линии Интерпола. На родине активистка оппозиции обвиняется по статье 37 Уголовного кодекса Таджикистана — «Ответственность соучастников преступления».

Со дня ареста Шабнам Худойдодова содержится в СИЗО города Бреста.

УЧОРА

## Дайце грошай!

*Учора міністр фінансаў Расіі **Антон Сілуянаў** паведаміў, што Беларусь просіць у Расіі крэдыт на 3 млрд долараў.*

Гэтымі днямі, як вядома, ва Уфе праходзяць саміты краін БРІКС і Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва (ШАС). Беларусь удзельнікам ні першага, ні другога міжнароднага ўтварэння не з'яўляецца, аднак Аляксандр Лукашэнка ва Уфу паляцеў. І першнаперш сустрэўся з Уладзімірам Пуціным. Пасля гэтага рандэву прэс-служба Крамля працытавала Пуціна: *"Беларусь набывае статус назіральніка ў гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі, роля якой расце ў сучасным свеце. Мы ўпэўнены ў тым, што ваш удзел у працы Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва пойдзе на карысць як Беларусі, так і ўсім удзельнікам гэтага працэсу»*. Яшчэ адно паведамленне аб сустрэчы зляцела з вуснаў прэс-сакратара Пуціна Дзмітрыя Пяскова. Тычылася яно крэдыту, які Беларусь разлічвае атрымаць ад Расіі. Пяскоў быў нешматслоўны: пытанне аб выдачы крэдыту Мінску дэталёва не абмяркоўвалася, закраналіся розныя аспекты ўзаемадзеяння ў фінансава-крэдытнай сферы...

Аднак ужо ўчора міністр фінансаў Расіі Сілуянаў паведаміў журналістам, што Беларусь просіць у Расіі крэдыт на 3 млрд долараў і просьба Беларусі будзе разгледжана з улікам выканання ўмоў праграм па папярэдніх крэдытах. Акрамя гэтага, Сілуянаў паведаміў, што ўжо ў ліпені Беларусь атрымае 760 млн долараў – другую частку крэдыту, якая была ўхвалена раней. Гэта крэдыт на агульную суму да 2 млрд долараў, пра які Пуцін і Лукашэнка дамовіліся 25 снежня 2014 года на пасяджэнні Вышэйшага дзяржсавета Саюзнай дзяржавы. Тады, ужо на наступны дзень пасля перамоў прэзідэнтаў, урад РФ ухваліў міжурадавае пагадненне аб выдзяленні Мінску 450 млн долараў дзяржаўнага крэдыту пад 4% гадавых тэрмінам на 10 гадоў. Першая частка расійскага крэдыту паступіла ў Беларусь у канцы снежня.

ДАРЭЧЫ

### Па розных адрасах

Як вядома, у гэтым годзе Беларусі неабходна пагасіць знешні доўг у памеры чатырох мільярдаў долараў. І Расія – не першы адрас, куды нашы ўлады звярнуліся з просьбай пазычыць грошай. У сакавіку гэтага года афіцыйны Мінск звярнуўся з заяўкай на атрыманне новага крэдыту ў Еўразійскі фонд, але рашэнне па гэтай заяўцы пакуль не прынята. Таксама Беларусь разлічвае на крэдытную праграму з МВФ.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

НАДВОР'Е

## Пахаладае...



У бліжэйшыя дні ўмовы надвор'я на тэрыторыі Беларусі будзе вызначаць халаднаватая няўстойлівая паветраная маса са Скандынавіі. Чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е.

10 ліпеня ноччу месцамі, днём на большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы, днём у асобных раёнах – навальніцы.

Тэмпература паветра мінімальная ноччу складзе +9...+15°С, максімальная днём +14...+20°С.

**11 ліпеня** часам пройдуць дажджы, днём у асобных раёнах прагрымяць навальніцы. Месцамі па паўднёва-заходняй палове моцны парывісты паўночна-заходні вецер. Тэмпература паветра мінімальная ноччу складзе +8...+13°С, максімальная днём +15...+22°С.

**12 ліпеня** месцамі, пераважна па паўночна-ўсходняй палове краіны, пройдуць кароткачасовыя дажджы, днём у асобных раёнах прагрымяць навальніцы.

Тэмпература паветра мінімальная ноччу +8...+13°С, максімальная днём +17...+22°С, па паўднёвым захадзе да +24°С.

В МИРЕ

## ПА ОБСЕ признала российскую военную агрессию против Украины

Парламентская ассамблея Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе (ПА ОБСЕ) приняла резолюцию «Продолжение очевидных, грубых и неисправленных нарушений РФ обязательств в рамках ОБСЕ и международных норм».

Принятый документ является инициативой канадско-украинской группы депутатов и размещен на сайте ПА ОБСЕ. В нем, в частности, отмечается, что «*действия Российской Федерации в Автономной Республике Крым и в городе Севастополе, а также в определенных районах Донецкой и Луганской областей являются актами военной агрессии против Украины*».

Как сообщила изданию «Лига. Новости» член украинской делегации **Анна Гопко**, за резолюцию проголосовали 97 парламентариев, семь выступили против, еще 32 депутата воздержались. Документ не поддержали делегации Франции, Швейцарии и Армении. Кроме того, несколько представителей Нидерландов и Кипра воздержались при голосовании. Среди воздержавшихся также оказался украинский депутат Нестор Шуфрич.

***Шаноўныя чытачы! Абставіны склаліся такім чынам, што наступны нумар "Народнай Волі" выйдзе не ў аўторак 14 ліпеня, а ў сераду 15 ліпеня.***

**Рэдакцыя.**

